ТЭЛЕПРАГРАМА НА ТЫДЗЕНЬ

**№190 (2003)**

Субота, 9 кастрычніка 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень
Выдавец:
УП «Народная воля».

Кошт свабодны.

# Народная Воля

E-mail : nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### Надвор'е

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +7...+9, часам дождж, уначы — +5...+7, магчыма — дождж; у Брэсце ўдзень — +7...+9, уначы — +5...+7, на працягу сутак — без ападкаў; у Гродне ўдзень — +8...+10, уначы — +4...+6, на працягу сутак — без ападкаў; у Віцебску ўдзень — +7...+9, без ападкаў, уначы — +5...+7, дождж; у Гомелі ўдзень — +9...+11, дождж, уначы — +6...+8, без ападкаў; у Магілёве ўдзень — +8...+10, уначы — +6...+8 на працягу сутак — без ападкаў.

*www.meteo.by*

**ПУЛЬС**

## Паводле папярэдняй інфармацыі, грамадзян Беларусі сярод пацярпелых ад выбухаў у Егіпце няма

Паводле папярэдняй інфармацыі, грамадзян Беларусі сярод пацярпелых у выніку выбухаў, што адбыліся 7 кастрычніка на курортах Егіпта, няма. Пра гэта БелаПАН паведаміў прэс-сакратар беларускага МЗС Андрэй Савіных. Тым не менш, паводле яго слоў, Пасольства Беларусі ў Егіпце "працягне работу ў гэтым кірунку да высвятлення ўсіх абставін".

Чатыры выбухі адбыліся вечарам у чацверг і ў ноч на пятніцу на курортах Егіпта на Сінайскай паўвыспе, паведамляюць замежныя інфармагенцтвы. Першы адбыўся ў гатэлі "Хілтан" у егіпецкім горадзе Таба на мяжы з Ізраілем, яшчэ два — у суседніх курортных зонах Рас-Султан і Мухайамат-эт-Тарабін. Чацвёрты выбух адбыўся ў курортным горадзе Нувейба, на поўдзень ад Табы.

Паводле апошніх звестак, каля 40 чалавек загінулі, больш за 100 атрымалі раненні. Найбольшая колькасць ахвяр — сярод ізраільскіх турыстаў. У ліку пацярпелых таксама 15 грамадзян Расіі.

Адказнасць за выбухі ўзялі на сябе дзве раней не вядомыя ісламісцкія групоўкі, аднак сапраўднасць іх заяў пакуль не ўстаноўлена.

**Ірына ЛЕЎШЫНА.**

## Абвінавацілі ў незаконным распаўсюджванні друкаванай прадукцыі

У незаконным распаўсюджванні друкаванага выдання, якое можа нанесці ўрон дзяржаўнаму ладу Рэспублікі Беларусь, абвінавачваецца затрыманы ў Гомелі юрыст рэгіянальнага аддзялення грамадзянскай ініцыятывы "Партнёрства" Алесь Яўсеенка, які з'яўляецца таксама старшынёй Гомельскага аддзялення Беларускага Хельсінкскага камітэта. Пра гэта паведаміў кіраўнік гомельскага абласнога аддзялення грамадзянскай ініцыятывы "Партнёрства" Святаслаў Шаламаў.

Паводле яго інфармацыі, машына, у якой А.Яўсеенка перавозіў тыраж інфармацыйнага бюлетэня "Партнёрства", была спынена супрацоўнікамі ДАІ на адным з пастоў па вуліцы Савецкай у Гомелі. А.Яўсеенку даставілі ў Чыгуначнае РАУС для высвятлення абставін і праз тры гадзіны адпусцілі. 30 тысяч асобнікаў бюлетэня, якія прызначаўся для распаўсюджвання на тэрыторыі Гомельскай вобласці і прысвечанага рэферэндуму, былі канфіскаваны.

**Алена ПАСКАННАЯ.**

## Валерыя Шчукіна ў чарговы раз адправілі на «суткі»

Учора ў Віцебску на 10 сутак асуджаны праваабаронца Валерый Шчукін.

Напярэдадні Валерыя Шчукіна затрымалі каля тамтэйшага кінатэатра "Брыганціна", калі ён распаўсюджваў улёткі з заклікам сказаць "не" на рэферэндуме.

Праваабаронцу затрымаў міліцэйскі патруль і даставіў у Першамайскі РАУС, дзе склалі пратакол і абвінавацілі ўжо не ў распаўсюджванні ўлётак, а ў аказанні супраціўлення ахоўнікам парадку. За што, уласна кажучы, і асудзілі.

**Алесь СІВЫ.**

***М.СТАТКЕВІЧ,***
***старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада):***

## «Галоўная задача — не дапусціць пераабрання Лукашэнкі на трэці прэзідэнцкі тэрмін»

Паводле слоў палітыка, сацыял-дэмакраты гатовы нават ахвяраваць якасцю правядзення ўласных выбарчых кампаній дзеля вырашэння галоўнай задачы — не дапусціць пераабрання Аляксандра Лукашэнкі на трэці прэзідэнцкі тэрмін.

М.Статкевіч таксама паведаміў пра шматлікія факты націску на кандыдатаў у дэпутаты ад БСДП (НГ). Некалькі дзён таму, паводле слоў палітыка, акруговая камісія Лагойскай выбарчай акругі № 82 адмяніла рэгістрацыю кандыдата ў дэпутаты кіраўніка Мінскай абласной арганізацыі БСДП (НГ) Канстанціна Мароза. Акрамя таго, з пачатку рэгістрацыі кандыдатаў абласныя ўпраўленні юстыцыі закрылі 10 рэгіянальных партыйных арганізацый. Асабліва, паводле слоў М.Статкевіча, "пастараліся" ўпраўленні юстыцыі Віцебскай і Брэсцкай абласцей.

Зараз, паведаміў палітык, з 56 прэтэндэнтаў, вылучаных БСДП (НГ) кандыдатамі ў дэпутаты, выбарчую гонку працягваюць 30 чалавек.

**Юрый ПАЦЁМКІН, БелаПАН.**

# З прэсай размаўляць не захацела...

Фраза, вынесеная ў загаловак, належыць Святлане Мянжынскай, старшыні Віцебскай-Горкаўскай акруговай камісіі па выбарах у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

Гэта — менавіта тая камісія, якая ў свой час зарэгістравала кандыдатам інжынера-геолага Паўла Севярынца, а потым, пасля яго шчырага выступу на хвалі абласнога радыё, адмяніла сваё папярэдняе рашэнне і прыняла новае, супрацьлеглае, пазбавіўшы кандыдата магчымасці балатавацца.

Нагодай для такога жорсткага рашэння стала крытычная пазіцыя П.Севярынца ў адносінах да шэрагу рэалій сучаснага беларускага жыцця і палітыкі цяперашняга кіраўніцтва краіны. А хутчэй за ўсё, нагода для атакі на кандыдата была іншая: мясцовая ўлада ўбачыла, што Севярынец знаходзіць падтрымку ў шырокіх колах выбаршчыкаў і можа быць абраным у парламент.

Камісія, як паведамляла ўжо наша газета, пазбавілася ад незалежнага кандыдата проста: абвінавація яго ў "паклёпе" на нашу зайздросную рэчаіснасць і нашу ідэальную ўладу...

Менавіта на гэтую спрэчную тэму меркаваў пагутарыць са Святланай Акімаўнай Мянжынскай нештатны карэспандэнт папулярнай мясцовай газеты "Витебский курьер" Уладзімір Жыгулоў, які адначасова мае афіцыйны статус даверанай асобы Паўла Севярынца.

Спачатку Мянжынская дала згоду на размову з прадстаўніком друкаванага органа. Але пазней, калі наспеў час сустрэчы з журналістам (і даверанай асобай апальнага кандыдата), Святлана Акімаўна раптоўна дала задні ход: "Я не буду адказваць на вашы пытанні і наогул не жадаю мець справы з прэсай, — рашуча заявіла Святлана Акімаўна і дадала: — Так можаце і напісаць у газеце". Мянжынская нагадала, што Павел Севярынец паскардзіўся на камісію ў пракуратуру, і дала субяседніку зразумець, што вельмі гэтым незадаволена, таму і з прэсай кантактаваць у яе няма настрою. "Пакуль не прыме рашэнне Цэнтрвыбаркам, я нічога не буду гаварыць, — заявіла старшыня акруговай камісіі. — Вось прыме ён рашэнне, тады і пагаворым".

Уласна кажучы, і гаварыць няма аб чым. Усё і так зразумела. З выбарчай "гонкі" могуць выбыць і іншыя кандыдаты, якія ў сваіх агітацыйных выступах дазволяць сабе хоць нязначна ўсумніцца ў правільнасці сацыяльна-эканамічнага курсу цяперашняга кіраўніцтва краіны. Словам, ніводнага іншадумца ў парламенце быць не павінна. Дырэктар школы С.А.Мянжынская з прэсай размаўляць не захацела. За што, магчыма, атрымала падзяку "зверху".

А вось вучняў яе шкада...

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

**ЧУЛІ?**

## «Акт аб дэмакратыі ў Беларусі» зацверджаны Сенатам Кангрэса Злучаных Штатаў Амерыкі

Сенат Кангрэса ЗША аднагалосна прыняў "Акт аб дэмакратыі ў Беларусі". Цяпер дакумент паступіць на подпіс прэзідэнту краіны Джорджу Бушу. 4 кастрычніка "Акт..." таксама аднагалосна быў прыняты Палатай прадстаўнікоў Кангрэса ЗША.

Дакумент прадугледжвае ўвядзенне Злучанымі Штатамі санкцый у выпадку адмаўлення беларускіх улад спыніць пераслед апазіцыі і незалежных СМІ, расследаваць выпадкі палітычна матываваных знікненняў людзей. Для шэрагу беларускіх чыноўнікаў будзе закрыты доступ на тэрыторыю ЗША, забаронены стратэгічны экспарт у Беларусь і дзяржаўныя інвестыцыі, а таксама прыняты меры да скарачэння фінансавай дапамогі краіне з боку міжнародных фінансавых інстытутаў. "Акт..." прадугледжвае абнародаванне звестак аб экспарце Беларуссю зброі ў краіны, што падтрымліваюць тэрарызм, і публікацыю звестак аб даходах прэзідэнта краіны і іншых вышэйшых службовых асоб.

**Дзмітрый УЛАСАЎ, БелаПАН.**

**БЕЗ РЕТУШИ**

## Студенты засыпали Латыпова «неудобными» вопросами

В четверг глава Администрации президента Урал Латыпов встречался со студентами Белорусского экономического университета.

Повестка дня была лаконична: 1.Выступление У.Латыпова. 2.Вопросы зала.

Как и планировалось, Урал Латыпов появился в главном корпусе экономического университета около 15.00. За полчаса до встречи у всех дверей, через которые можно было войти в актовый зал, выстроились охранники. Видимо, с целью упредить появление в зале нежелательных лиц.

Встреча началась вовремя. Опаздывающих в зал не пускали. Охранников не трогали даже слезные мольбы хорошеньких студенток. Одна девушка пыталась объяснить, что у нее могут возникнуть неприятности. "С нами разговаривали, составляли предварительные списки, — уговаривала она молодого человека. — Я должна занять в зале конкретное место, если оно будет пустовать, это заметят".

Но зал был полон. В президиуме сидел ректор университета **Владимир Шимов**.

В своем выступлении Урал Латыпов говорил об угрозе с Запада, о белорусской оппозиции, которая "отрабатывает" западные деньги, и о том, что на референдуме белорусы будут выбирать не Лукашенко, а курс, которым идет страна. В общем, стандартные, надоевшие всем фразы, которые каждый день мы слышим по белорусскому телевидению из уст одного и того же человека. Когда свои вопросы стали задавать студенты, ректору Шимову пришлось поволноваться. Видимо, он не ожидал такой активности и смелости от своих подопечных.

Студенты спрашивали Латыпова о том, законно ли вынесен на референдум вопрос, который по сути состоит из двух? Не задумывались ли в Администрации о том, чтобы выставить на предстоящие президентские выборы человека из команды Лукашенко: это позволило бы не менять Конституцию и не нарушать законы? Почему по белорусскому телевидению мы видим только Лукашенко, а представителям оппозиции не дают слово?

— Не кажется ли Вам, что белорусское руководство предлагает нам вариант Туркмении и Югославии? — спросил молодой парень.

— Если бы вы были в Туркмении, то не смогли бы вот так говорить, — ответил Латыпов. — В Югославии были этнические конфликты.

— Мы к этому движемся, — парировал студент. — В Беларуси исчезают политики...

— Ну что ж, надо их искать, — заметил глава президентской администрации. И добавил: — Это уже дискуссия. Подойдите ко мне, поговорим...

Результаты встречи подытожил ректор Владимир Шимов. "Очень хорошо, что мы пытаемся говорить друг с другом", — сказал он. И сделал замечание в том смысле, что, мол, мы (надо понимать, преподаватели. — **О.Г.**) слушаем вас, пытаемся понять, а вы — нет, и мы не можем до вас достучаться. Что он имел в виду, приходится только догадываться...

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

**ПАСТФАКТУМ**

# Крывадушша?

## *Колькі зарабляе прэзідэнт ЗША — вядома. А якія даходы ў А.Лукашэнкі?*

Як вядома, на нядаўна прыняты ў Вашынгтоне "Акт аб дэмакратыі ў Беларусі" Лукашэнка адрэагаваў надзвычай нервова. У прыватнасці, звяртаючыся да амерыканскіх улад, ён адзначыў: *"Дайшлі аж да таго, што запатрабавалі абнародаваць даходы прэзідэнта Беларусі. Пры чым тут выбары ў парламент, рэферэндум — і даходы прэзідэнта? Я, праўда, даручыў неадкладна зараз усё падлічыць, што мне заплаціла дзяржава, неадкладна, і накіраваць у Амерыку. Мы ім накіруем даходы прэзідэнта. А потым наш парламент у новым складзе сыдзецца і запатрабуе, каб Буш да выбараў абнародаваў свае даходы, і параўнаем — ці дашле ён нам такую інфармацыю? Разумееце, да дзікунства даходзіць. Яны ўжо там атупелі і апупелі, што яны не ведаюць, што яны робяць. Пры чым тут даходы прэзідэнта?"*

Навошта чакаць нейкіх абнародаванняў ад прэзідэнта ЗША, Аляксандр Рыгоравіч, рабіць доўгатэрміновыя запыты, збіраць "наш парламент", губляць час і грошы? Усё ўжо даўно абнародавана і "пераабнародавана". Проста даручыце камусьці з вашай шматлюднай прэс-службы знайсці ў сусветнай камп'ютэрнай "павуціне" адну з дзяржаўных амерыканскіх Інтэрнет-старонак і пашукаць там неабходную інфармацыю. Ніхто, паверце мне, гэтую інфармацыю ад грамадства не хавае, яна адкрытая для ўсіх.

Мне, напрыклад, спатрэбілася ўсяго пяць хвілін, каб азнаёміцца з данымі, якія дае амерыканская публічная бібліятэка (потым гэтыя ж лічбы пацвердзілі іншыя крыніцы): *"Прэзідэнт Злучаных Штатаў зарабляе на сваёй пасадзе 400.000 долараў у год* **(33.000 долараў у месяц)**. *Пасля зыходу ў адстаўку ён атрымлівае пенсію ў залежнасці ад заробкаў іншых членаў Кабінета, на студзень 2002 года яна складала 166.700 долараў у год, альбо* **13.900 долараў у месяц.** (Да ведама: пенсія былога кіраўніка Беларусі Станіслава Шушкевіча складае **3 долары ў месяц.**)

*"Заробак прэзідэнта кантралюецца Законам, часцей за ўсё — №3USC102,* — далей паведамляецца на сайце бібліятэкі. -- *Апошняе падвышэнне даходу прэзідэнта ЗША адбылося ў 2000 годзе, калі прэзідэнтам стаў Джордж Буш-малодшы: у тым годзе зарплата прэзідэнта паднялася з 200 да 400 тысяч долараў у год. Прэзідэнт ЗША, акрамя зарплаты, атрымлівае* **50.000 долараў** *штогод, якія не падлягаюць падаткаабкладанню, "на расходы", а таксама* **100.000 долараў** *штогод на "камандзіровачныя".* **19.000 долараў** *з дзяржаўнага бюджэта ЗША выдзяляецца прэзідэнту ў год на арганізацыю "афіцыйных вечарын і прыёмаў", яму таксама на тэрмін прэзідэнцтва забяспечваецца бясплатнае пражыванне ў Белым доме. Былая "першая лэдзі" Амерыкі атрымлівае* **20.000 долараў у год** *пенсіі, зарплата дзеючага віцэ-прэзідэнта ЗША —* **181.400 долараў штогод,** *міністр абароны і іншыя члены Кабінета ўзроўню міністра атрымліваюць —* **157.000...** "

*Джордж Буш: дык якія ў вас даходы, Аляксандр Рыгоравіч?*

Здаецца, вельмі неблагія грошы выдаткоўвае амерыканская дзяржава на ўтрыманне свайго прэзідэнта і яго кабінета. Але адзначу ў гэтай сувязі два вельмі важныя, на мой погляд, моманты. Па-першае, дзяржаўны бюджэт Беларусі на наступны 2005 год саступае федэральнаму бюджэту ЗША прыкладна ў 220 разоў (10 мільярдаў долараў — у параўнанні з 2,2 трыльёнамі), нягледзячы на тое, што насельніцтва Злучаных Штатаў перавышае наша ўсяго ў дваццаць разоў. Іншымі словамі, на кожнага грамадзяніна Беларусі сродкаў дзяржаўнага бюджэту прыпадае ў 11 разоў меней, чым у ЗША. Але гэта ўсё ж такі не самае галоўнае...

Самае галоўнае, па маім перакананні, у тым, што зарплата Джорджа Буша разам з дадатковымі выплатамі, якія прадугледжаны Законам, — гэта АДЗІНАЯ крыніца даходаў кіраўніка амерыканскай дзяржавы. Калі ў яго знойдуцца яшчэ нейкія крыніцы даходаў (а незалежныя СМІ ў Амерыцы, калі такі прэцэдэнт быў бы, абавязкова зрабілі б з гэтага сенсацыю), то тады другі "уотэргейт" — немінучы. І Джордж Буш, як калісьці Рычард Ніксан, быў бы вымушаны сысці ў адстаўку...

А што ў нас? Толькі немаўля, здаецца, у Беларусі верыць, што заробак кіраўніка дзяржавы, які, як заявіў нядаўна сам Лукашэнка на сустрэчы с брэсцкімі студэнтамі, складае ўсяго каля **400 долараў у месяц**. Што, гэта адзіная крыніца яго даходаў?

Як паведамляе, напрыклад, скандальны Інтэрнет-сайт www.batke.net, Лукашэнка — самы багаты грамадзянін Беларусі, маёмасць якога ацэньваецца ў... (не буду называць канкрэтную лічбу, каб не даць магчымасці абвінаваціць мяне ў паклёпе). Я, шчыра кажучы, гатовы, як тое птушаня ў гняздзе, праглынуць любое абвяржэнне ўлад на гэты конт і паверыць у тое, што наш прэзідэнт — самы "жабрацкі" прэзідэнт у свеце. Але... Але ў падсвядомасці нязменна ўзнікаюць "шкодныя" пытанні: адкуль на месячную зарплату у 400 долараў вышэйшы дзяржаўны чыноўнік Беларусі дазваляе сабе тое, што па кішэні толькі вельмі і вельмі багатым людзям?

І яшчэ. Сам міністр фінансаў аднойчы сказаў, што ён не ведае, куды ідуць грошы ад гандлю зброяй, ад іншых аперацый. Значыць, не ўсе народныя грошы трапляюць у дзяржаўны бюджэт. І тут нельга не ўзгадаць пра эксклюзіўны авіялайнер "Боінг-737-Бізнес-Джэт", які заказаны ў нялюбых Злучаных Штатах і кошт якога, згодна з інфармацыяй афіцыйнага сайта кампаніі "Боінг", складае недзе каля 70 мільёнаў долараў ЗША. У афіцыйным бюджэце, здаецца, такія расходы не закладзены. Адкуль тады грошы?

Аляксандр Рыгоравіч, не зыходзіцца, як кажуць бухгалтары, дэбет з крэдытам.

...У беларускай мове ёсць вельмі яскравае слова — "крывадушша". Яно, на мой погляд, нашмат лепей рускага слова "лицемерие" адлюстроўвае сітуацыю, калі нехта думае адно, а на людзях кажа зусім іншае. Пакуль нашы чыноўнікі будуць працягваць адкрыта і бессаромна крывіць душой, у тым ліку ў пытаннях сваіх заробкаў, сваіх умоў жыцця, сваёй сціпласці, ніякай шчырасці ў справах ад такіх чыноўнікаў чакаць не даводзіцца. Вы не згодны са мной? Давайце паспрачаемся на старонках "Народнай волі".

**Алесь СІЛІЧ.**

**ОВАЛЬНЫЙ ЗАЛ**

## Белорусский бюджет — самый быстрый в мире

***8 октября депутаты Палаты представителей ЗА 25 МИНУТ приняли два сложнейших законопроекта — "О бюджете Республики Беларусь на 2005 год" и "О внесении дополнений и изменений в некоторые законодательные акты Республики Беларусь по вопросам налогообложения".***

Оба законопроекта рассматривались во втором чтении.

Вопросов к докладчикам и содокладчикам законопроектов у депутатов не было. Вообще не было. Проголосовали "за" большинством голосов. В обоих случаях против был лишь один депутат.

Сразу после принятия бюджета слово взял присутствовавший в Овальном зале вице-премьер **Андрей Кобяков**.

*"От имени правительства хочу поблагодарить депутатов за оперативную работу"*, — сказал он. И на всякий случай заметил, что бюджет так быстро приняли не потому, что депутатам *"все равно, за что голосовать"*, а потому, что накануне законопроект был *"глубоко проработан"*.

*"Надеюсь, что с новым составом парламента у нас будет такая же конструктивная работа"*, — обрадованно сказал Кобяков и ушел.

За ним Овальный зал покинули практически все представители министерств и ведомств. На часах было 10.25.

Некоторые журналисты государственных изданий опоздали к началу сессии. Появившись в "парламенте" ровно в половине одиннадцатого, они изумились, что бюджет уже принят. *"Не может быть!* — искренне восклицали они и сразу уточняли: — *А который сейчас час?"*

8 октября депутаты также моментально ратифицировали три соглашения: между правительством Беларуси и правительством Сирии о международных автомобильных перевозках, между правительствами Беларуси и Азербайджана о свободной торговле и о воздушном сообщении. Затем за пять минут согласились с председателем Центризбиркома **Лидией Ермошиной,** которая торопливо представила декрет Лукашенко о членах Центризбиркома с правом совещательного голоса.

Бурные дебаты в зале вызвал лишь законопроект "О борьбе с коррупцией". Об этом — в следующем номере "Народной воли".

### *Комментарий*

***Ярослав РОМАНЧУК, экономист:***

— Такое скорое принятие бюджета говорит о том, что парламент в Беларуси бюджетом вообще не занимается. А это значит, он не выполняет свою основную функцию — не контролирует исполнительную власть. Ведь, как правило, самые главные баталии между парламентом и исполнительной властью разгораются именно по поводу бюджета. Очевидно, Палата представителей у нас является бессмысленным органом. Кстати, об этом красноречиво говорит предложение депутата Виктора Кучинского принять бюжет вообще без обсуждения...

По сути дела, бюджет раздает определенное количество "слонов" — льгот и возможностей заработать для тех, кто контролирует в стране основные финансовые потоки. Например, в бюджет на будущий год включено довольно интересное положение о том, что деньги от сдачи в аренду помещений не включаются в доходы консолидированного бюджета и будут контролироваться теми организациями, которые эти самые помещения сдают в аренду. Это большой подарок Управлению делами президента, разным министерствам и ведомствам, у которых этих зданий довольно много. Теперь они будут иметь свой собственный весьма солидный бюджетик...

Депутаты с подачи Лукашенко молча приняли бюджет на проедание, а не на развитие инвестирования. Бюджет на 2005 год — это бюджет политический и пропагандистский. Его никак нельзя назвать документом, который создает основу для развития нашей экономики.

***Станислав БОГДАНКЕВИЧ, председатель правления Национального банка Республики Беларусь в 1991—1995 годах:***

— Великий Маркс говорил, что показатель эффективности, уровня жизни и всего иного богатства — это высочайшая производительность. То, что депутаты за 25 минут приняли два сложнейших законопроекта, говорит о невиданно высокой производительности труда депутатов!.. А если серьезно, то я где-то даже понимаю депутатов, которые служат у президентского корыта. Понимаю, потому что сегодня закон в Беларуси ничего не значит. Президент росчерком пера ежегодно меняет бюджет. И доходную часть, и расходную. И даже дефицит. Это свидетельствует о том, что парламент в Беларуси не имеет никаких полномочий. Он как бы лишнее звено в авторитарной системе управления. Показушное звено.

Ни в одной стране мира глава государства, глава исполнительной власти, не уполномочен менять законы. Тем более закон о бюджете, который, бывает, обсуждается месяцами! А раз Лукашенко его постоянно меняет, то, действительно, нечего и обсуждать. В нормальном государстве, повторяю, такого не бывает. Депутаты, видимо, осознали это и решили не тратить силы и нервы на бесполезное обсуждение...

**Марина КОКТЫШ.**

## Удзельнічаць у выбарах — можна, а друкаваць плакаты — не?

Кіраўнікі Аб'яднанай грамадзянскай партыі (АГП) Анатоль Лябедзька, Мінскай гарадской арганізацыі АГП Яўген Лабановіч і ліквідаванага "Беларускага аб'яднання маладых палітыкаў" Аляксандр Цынкевіч звярнуліся ў Цэнтральную камісію па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў з заявай, у якой просяць ЦВК аказаць дапамогу ў атрыманні перадвыбарчых плакатаў, выдадзеных у прыватнай друкарні "Арт-прынт".

Як расказаў БелаПАН А.Лябедзька, прадстаўнікам АГП з вялікай цяжкасцю ўдалося знайсці друкарню, якая ўзялася б за выраб перадвыбарных плакатаў. "Большасць кіраўнікоў прыватных друкарняў шчыра гаварылі, што калі б мы былі кандыдатамі ад улады, то тады яны без боязі ўзяліся б за выкананне заказу. А так, апасаліся яны, у іх могуць пачацца непрыемнасці, — сказаў палітык. — Зрэшты, так і адбылося. Як толькі ў "Арт-прынт" былі пералічаны сродкі на выраб улётак кандыдатаў ад АГП, друкарню наведалі спачатку супрацоўнікі КДБ, потым — АБЭЗ і падатковай службы".

Паводле слоў палітыка, ён паспеў забраць з друкарні палову надрукаваных улётак, а, да прыкладу, Я.Лабановіч дагэтуль не можа пачаць паўнавартасную агітацыйную кампанію, паколькі тыраж яго ўлётак апячатаны. Сітуацыя з плакатамі АГП — гэта яшчэ адзін факт, лічаць апазіцыянеры, які пацвярджае стварэнне няроўных умоў для вядзення агітацыйных кампаній для кандыдатаў, якія падтрымліваюць Аляксандра Лукашэнку і апанентаў улады.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

## Міліцыя пераходзіць на ўзмоцнены варыянт нясення службы...

З 12 кастрычніка ў сувязі з набліжэннем даты галасавання на парламенцкіх выбарах і рэспубліканскім рэферэндуме органы ўнутраных спраў Беларусі пераходзяць на ўзмоцнены варыянт нясення службы. Пра гэта БелаПАН паведаміў кіраўнік МУС Уладзімір Навумаў.

Паводле яго слоў, з гэтага дня ў забеспячэнні грамадскага парадку будзе задзейнічана 100 працэнтаў асабовага складу, пад ахову будуць узяты выбарчыя ўчасткі. "Інфармацыі аб тым, што будуць нейкія складанасці, у нас няма, — сказаў У.Навумаў. — Я думаю, што дзеянні пэўных груп людзей, якія паспрабуюць прыцягнуць да сябе ўвагу, — гэта хутчэй самарэклама, а не спроба паўплываць на абстаноўку".

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

СУДЬБА ЧЕЛОВЕКА

# Борьба Дмитрия Дебелко

## Бронзовый призер Олимпиады 2000 года, пораженный тяжелой болезнью, оказался сегодня практически никому не нужен



*Бронзовый призер сиднейской Олимпиады Дмитрий ДЕБЕЛКО всегда был Борцом с большой буквы. Борец греко-римского стиля в весовой категории до 130 кг — он никогда не "складывал лапки" перед соперником на ковре. Когда видел несправедливость со стороны тренеров, боролся и с этим. Сегодня у него другая борьба. Более отчаянная. Борьба за собственную жизнь...*

### Слон в трико

В раннем детстве и в школе Димку всегда выделяли среди сверстников. Его — пухленького, но тем не менее очень подвижного — легко было распознать в толпе ребят, и если, не дай Бог, какая-нибудь несправедливость — знай, что среди дерущихся ищет правду и Димка. Как правило, комплекция позволяла с честью выходить из мальчишеских "разборок" победителем. Жили тогда в Минске, в Лошице, и мама, чтобы немножко "окультурить" сына, отвела его в ДК камвольного комбината на бальные танцы.

*"Две недели продержался,* — с улыбкой вспоминает сегодня Дима. — *Но не подошел, сказали, что слишком активно двигаюсь. А как еще может двигаться слон в трико?"*

Фактура у паренька и на самом деле была что надо! Что уж тут говорить, когда на своих первых соревнованиях четвероклассник Дима Дебелко выступал в весовой категории до 66 кг. Это вам не балет!

### Победный жанр и кризис жанра

А до этого Диму заприметил в школе тренер Владимир Иванович Конциленко, который проводил набор в секцию по борьбе при ЖЭСе №84 на Юго-Западе — к тому времени семья Дебелко переехала туда. Физические данные подходили, дело оставалось за малым — раскрыть характер паренька да отшлифовать технику. И результаты не заставили себя долго ждать. Несмотря на то, что семья у Димы считалась неспортивной (мама работала в поликлинике, отец — шофером), сам он как будто рожден был для спорта. Уже в 10 лет, выступая за свое родное общество "Красное знамя", Дима занял на соревнованиях 2-е место. А потом были тренировки, тренировки, тренировки... Пока в 9-м классе не наступил "кризис жанра".

*"Это, наверное, был переходный возраст,* — говорит Дима. — *У нас во дворе была своя компания, и улица, естественно, манила. Идешь на тренировку, а возле подъезда сидят под гитарку веселой компанией мои друзья и к себе зовут. Чего скрывать, раньше я и покуривал, случалось, что и водочки мог себе позволить — это ж компания, а там не хотелось выглядеть белой вороной. И в 9-м классе я решил "завязать" со спортом. Года полтора боролся с самим собой, тренер боролся со мной и моими родителями, родители отдали право все решать мне самому. И я "пережил" этот переходный возраст, нашел в себе силы остаться в спорте и затем не пожалел".*

Талант парня не остался в тени — через некоторое время его пригласил в училище олимпийского резерва тренер Борис Федорович Дмитриев. Спорт не особо мешал в учебе. Занятия Дима, конечно, пропускал, но "хорошистом" был стабильным. Правда, преподавательница русского языка однажды песню испортила, когда вкатила ему трояк, но — с кем не бывает...

В 1995 году Дмитрий становится первым на чемпионате мира среди молодежи в Венгрии, через год опять повторяет свой успех, затем еще.

"Большие перспективы у парня, — дружно кивали головами специалисты. — Бо-о-ольшие..."

### «На Олимпиаде был спокоен, как удав...»

— Лицензию на Олимпиаду в Сидней 2000 года я завоевал по набранным на турнирах очкам, — рассказывает Дима. — Человек я, в принципе, неконфликтный, но перед Играми высказал тренерам все, что думал об их тренировочных процессах. До Сиднея у нас было 16 сборов, и ни одного восстановительного! Нагрузка, нагрузка и еще раз нагрузка. Я и сказал тогда главному команды Вячеславу Максимовичу все, что думаю по этому поводу. Максимович в борьбе был человеком посторонним, все в команде знали об этом. Сам он с волейбола начинал, но в борьбу его как бы "задвинули". Многие борцы просто слушали тренера и молча поступали по-своему. Я высказался. И сразу же узнал, что Александр Медведь вроде бы как против моей поездки на Олимпиаду. Но страсти улеглись, в Австралию я попал, хотя, теперь скажу честно, ехал туда без надежды на медаль. А на самой Олимпиаде под впечатлением от Игр (это ж впервые такое чудо видел!) борьба и вовсе отошла на второй план. Надежд на меня никто не возлагал (все внимание было сфокусировано на Лиштвана, Копытова и Цилентя!), не было груза ответственности, никто никаких медалей с меня заранее не требовал — я был спокоен, как удав. И это очень помогло, бронза оказалась моей.

### А свадьба пела и плясала

Послеолимпийские деньки выдались для Дмитрия горячими. Как всегда — поздравительные речи Александра Лукашенко, который традиционно показывал, как он уважает и ценит труд спортсменов, встречи, приемы, подарки. Подарки были разные. Помельче — морозильная камера, покрупнее — 30-процентная скидка на трехкомнатную квартиру в Олимпийской деревне. Но самым дорогим подарком для Димы после Олимпиады была, конечно же, долгожданная свадьба с Наташей.

За пять лет до этого Дима впервые увидел белокурую 16-летнюю девчушку (он был старше ее на два года), с которой его познакомила подружка друга.

*"Я его и раньше видела, но всегда боялась подойти — он казался мне таким огромным,* — вспоминает Наташа. — *Раньше я никому свой домашний телефон не оставляла, а Дима ко мне подошел, деловито достал ручку с блокнотом и в упор спросил: "Какой номер телефона?" Я со страху сразу же и назвала".*

Свадьбу сыграли сромно, но со вкусом. Веселились гости, вовсю отплясывала невеста, Дима подхватывал на руки свою молодую жену и, кружа в бесконечном танце любви, все шептал на ухо своей счастливой спутнице жизни: "Наташка, любимая, если тебе нравится, мы сделаем еще раз такую же свадьбу!"

До "черного" дня оставалось 3 года...

### Страшный диагноз

На афинскую Олимпиаду-2004 Дмитрий завоевывает лицензию, как говорят, играючи — за год до Игр на первом же отборочном турнире. Тренировки сменялись тренировками, но в последнее время все чаще подскакивало давление, кружилась голова, что-то не в порядке было и с анализами...

**Дмитрий:** — Когда год назад я плохо себя почувствовал, мне никто не верил. У нас ведь врач в команде слова почти не имеет — все тренер решает. Я сказал тренеру Валерию Гайдуку, что плохо себя чувствую, тот мне ответил: "Ну не прикидывайся, Дима, не ленись". Становилось все хуже и хуже. Я не выдерживал нагрузок, часто случались судороги. Дадут витамины, что-то еще — вроде отпускает.

**Наталья:** — И муж тренировался до потери пульса. На медосмотрах неважные анализы тоже не принимали в счет. Отмахивались ("хочешь — ложись в больницу, не хочешь — не надо"), списывали на усталость, недосыпание. Высокое давление? От большого веса и постоянных нагрузок. Но сердце проверили — все в порядке. Плохие анализы, белок в моче? Тоже бывает от нагрузок. Все оставались равнодушными, провести полное медобследование ни у кого даже желания не возникало. И, когда оставалось два месяца до чемпионата страны, мама Димы все же настояла, чтобы тот лег в 4-ю городскую больницу. Там же в ноябре прошлого года врачи поставили Диме страшный диагноз — гломерулонефрит. Это одно из самых агрессивных заболеваний почек считается неизлечимым — по крайней мере о случаях излечения не известно. Если не делать гемодиализ, наступает летальный исход...

**Дмитрий:** — Врачи сразу же сказали мне, что с борьбой покончено — вообще больше трех килограммов поднимать нельзя. Три раза в неделю хожу на гемодиализ — это четыре часа под капельницей, когда кровь чистится без участия почек. И это не месяц или год, а до конца жизни. Насколько я понял, болезнь начала развиваться оттого, что попала инфекция. Организм боролся с ней, когда мне было плохо, а я в это время боролся на ковре. Если бы меня обследовали после первых же жалоб...

### Друзья познаются в беде

— Когда все это произошло, было очень тяжело, — говорит Наташа. — Тяжело видеть, как любимый, некогда здоровый мужчина на глазах теряет 16 килограммов, когда человек прикован к одному месту, потому что через день надо ходить на капельницы, когда теряется интерес к жизни, когда все вокруг плачут. Это очень тяжело... Плюс ко всему весной у Димы закончился контракт с "армейцами", с прошлого месяца он не получает зарплату и в Министерстве спорта — там та же ситуация. Мужу дали первую нерабочую группу инвалидности, но ее еще надо оформить. Пенсия — 70 тысяч рублей в месяц. Диме нужно колоть дорогие уколы, но одна ампула стоит 10 долларов. Кстати, и продаются-то они только в Москве. Вот и получается, как говорит Дима: "Побеждаешь ты — побеждают все, а проигрываешь ты один". И с горем своим сражаешься практически в одиночку. Мы ездили с мужем в аэропорт встречать его друга, бронзового призера этой Олимпиады борца Славу Макаренко, так к нам многие подходили, интересовались здоровьем. А наш прославленный Александр Медведь, который не только вице-президент НОКа, но и руководитель Федерации борьбы, прошел мимо, сделал вид, что не заметил. Как будто Дима уже умер, как будто его уже не существует. Во время трансляций соревнований борцов на афинской Олимпиаде упомянули, что сейчас Дмитрий Дебелко серьезно болен, нуждается в помощи. Думаете, кто-нибудь после этого позвонил? Никто! Лукашенко сейчас говорит олимпийцам: "Если человек завоевывает на Олимпиаде медаль, мы создаем для этого спортсмена все самые благоприятные условия". Вот он — бронзовый призер Олимпиады четырехлетней давности! Кто он сейчас? Какой у него до конца жизни сейчас статус? Вечный олимпиец? Инвалид спорта? В Министерстве спорта нам говорят: "Мы бы и рады вам помочь, но как? Нет законодательной базы. На ставке держать Диму в своем ведомстве мы не можем, а оттуда (и показывают пальцем вверх) по поводу таких случаев никаких инструкций нет". Остается, наверное, идти в фонд социальной защиты...

### Пан или пропал?

Сейчас Диме нужна операция — все время на капельницах жить не будешь. Первый вариант — это операция по пересадке почки, которую делают в Минске бесплатно. Но, как правило, только 30 процентов гарантии, что пересаженная почка приживется. Она дает возможность жить без гемодиализа, но сколько с ней протянешь — одному Богу известно. Второй вариант — сделать в Москве операцию с использованием стволовых клеток, которая стоит от 10 тысяч долларов. И не факт, что операция будет одна. Нужны деньги и немалые. Дима сейчас безработный, Наташа только в ноябре выходит на работу из декретного отпуска. Чтобы получить лицензию на право заниматься нотариальной деятельностью, ей нужно, чтобы еще допустили к экзаменам.

Борьба всегда была для Димы Дебелко на первом месте. И когда так резко все перечеркивается, когда в один момент ты становишься никому не нужен — это страшно. И больно. Вчера твое имя использовали в рекламных целях фирмы или политики, а сегодня, попади ты в беду, никто даже и не посмотрит в твою сторону.

...Под вечер Дима привычно отправляется в детский сад, чтобы забрать трехлетнего Сашку. Тот привычно тянется к отцу ручонками, который в его глазах читает: "Папка, ты обязательно выздоровеешь!.. Ты у меня самый сильный! Самый-самый любимый!.."

**Алесь СИВЫЙ.**

ПУЛЬС

### Пасол Беларусі ў Літве перадаў беларускамоўнай школе Вільнюса навучальную і мастацкую літаратуру

Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Беларусі ў Літве Уладзімір Гаркун перадаў вучням і выкладчыкам беларускамоўнай школы звыш двух тысяч асобнікаў падручнікаў, навучальных дапаможнікаў і кніг мастацкай літаратуры. Усе кнігі выдадзены на беларускай мове Цэнтрам навучальнай кнігі і сродкаў навучання Нацыянальнага інстытута адукацыі Міністэрства адукацыі Беларусі.

**БелаПАН.**

**Ад рэдакцыі.** *Беларускамоўная школа ў Літве. А колькі такіх школ у Беларусі?*

*Можа, нашы высокія чыноўнікі думаюць, што адраджэнне беларушчыны адбудзецца пры дапамозе суседняй краіны?*

### Дзеці прайшлі дыспансерызацыю

У 2003—2004 гадах у Беларусі была праведзена дыспансерызацыя дзяцей, якія жывуць у сельскай мясцовасці і гарадскіх населеных пунктах раённага падпарадкавання. Усяго агляду падлягалі каля 1 мільёна дзяцей і падлеткаў ва ўзросце да 18 гадоў.

Згодна з эпідэміялагічным аналізам, у кожнага пятага агледжанага дзіцяці ёсць розныя парушэнні і адхіленні ў стане здароўя. Так, у 3,5 працэнта дзяцей устаноўлена адставанне ў фізічным развіцці, а ў 1,6 працэнта — запаволенае біялагічнае развіццё. Парушэнні зроку выяўлены ў 8,5 працэнта агледжаных дзяцей, а парушэнні паставы і скаліёз — у 6,1 працэнта. Дзеці, якія часта і доўга хварэюць, складаюць 3,8 працэнта дзіцячага насельніцтва.

**Вольга АСІПЕНКА.**

### У падвале жылога дома знайшлі 1,5 кг тратылу

У Магілёве ў падвале 9-павярховага жылога дома супрацоўнікі абласнога ўпраўлення па Магілёўскай вобласці Камітэта па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй МУС Беларусі і ўпраўлення КДБ па Магілёўскай вобласці знайшлі 1,5 кг тратылу і 2 дэтанатары супрацьтанкавых мін часоў Вялікай Айчыннай вайны. Пра гэта БелаПАН паведамілі ва ўпраўленні інфармацыі і грамадскіх сувязяў МУС.

Узрыўчатка канфіскавана групай размініравання.

Па гэтым факце ўзбуджана крымінальная справа. Праводзіцца расследаванне.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

### У Полацку будзе свой тэатр

Да апошняга часу жыхары Полацка сустракаюцца з прафесійным тэатральным мастацтвам эпізадычна — толькі тады, калі ў горад прыязджае са сваімі спектаклямі з Віцебска Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Я.Коласа і выступае перад гледачамі славутага ў гісторыі, але ўсё ж райцэнтра на сцэне тутэйшага Палаца культуры.

Аднак падобна, што неўзабаве становішча зменіцца: у Полацку будзе прафесійны тэатр. Творчы падмурак для гэтага ўжо рыхтуецца. На працягу года ў згаданым Палацы культуры працуе тэатральная студыя, лепшыя выхаванцы якой, магчыма, стануць акцёрамі новай трупы.

Галоўны рэжысёр тэатра імя Я.Коласа Віталь Баркоўскі спадзяецца, што Беларуская акадэмія мастацтваў не адмовіцца стварыць спецыяльны курс, выпуск якога будзе накіраваны ў Полацк, каб стаць асновай тэатра, што яшчэ не мае назвы.

Але не адным натхненнем жыве тэатр. Артыстам неабходны заробкі і жыллё.

Не выключаны зрухі і ў гэтым напрамку. В.Баркоўскі быццам бы ўжо выпрасіў у Міністэрстве культуры 30 ставак для супрацоўнікаў будучага тэатра, а мэр Полацка Уладзімір Тачыла ў час нядаўняй сустрэчы з коласаўцамі даў зразумець, што зробіць усё магчымае для вырашэння кватэрнай праблемы, каб мець магчымасць перацягнуць у Полацк майстроў сцэны з іншых тэатраў і зацікавіць моладзь працай у невялікім, але ўтульным і сусветна вядомым горадзе.

Напачатку ў Полацку, хутчэй за ўсё, будзе працаваць філія акадэмічнага тэатра імя Я.Коласа, якая з цягам часу натуральна ператворыцца ў самастойны прафесійны творчы калектыў.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

ЗАПРАШЭННЕ

### Аляксандр КУЛЛІНКОВІЧ: «Нейра-Дзюбель» заспявае па-беларуску»

*22 кастрычніка ў клубе "Рэактар" адбудзецца прэзентацыя новай праграмы беларускага рок-гурта "Нейра-Дзюбель".*



Пра тое, чым музыканты збіраюцца здзівіць слухача, карэспандэнт "Народнай волі" пацікавіўся ў лідэра гурта **Аляксандра Куллінковіча:**

*"Гэта будзе прэзентацыя першай у гісторыі "Нейра-Дзюбеля" цалкам беларускамоўнай праграмы,* — гаворыць музыкант. — *На мой погляд, усе песні будуць цікавыя для слухачоў хаця б таму, што гэтыя кампазіцыі — новыя. Вельмі цяжка расказваць пра песні — іх трэба чуць. Адзінае, што магу сказаць пра новую праграму, у ёй не будзе адыходу ад стылю, да якога прызвычаіліся слухачы. Песні, якія ўключаны ў новую праграму, разнапланавыя: ад вальса да рэгі... Карацей кажучы, абяцаю, што будзе цікава".*

Дарэчы, усе тэксты песень, якія прагучаць у новай праграме, напісаны Аляксандрам Куллінковічам.

Так што прыходзьце 22 кастрычніка ў "Рэактар" — будзе цікава!

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

ПРЭМ'ЕРА

### «Лейтэнант Валодзька» на сцэне

*7 кастрычніка ў Дзяржаўным маладзёжным тэатры Беларусі адбылася прэм'ера спектакля "Лейтэнант Валодзька" паводле аповесці Вячаслава Кандрацьева "Водпуск па раненні". Рэжысёр-пастаноўшчык — мастацкі кіраўнік маладзёжнага тэатра Мадэст Абрамаў.*

Як паведаміў БелаПАН М.Абрамаў, у аповесці расказваецца, як "малады хлопец у 1942 годзе пасля ранення на перадавой трапляе ў Маскву, пасля чаго ў яго адбываецца пераацэнка каштоўнасцяў, разуменне жыцця, ён сталее, становіцца грамадзянінам, воінам".

"Я ставіў спектакль не пра вайну, а пра чалавека, пра тое, як цяжка захаваць у сабе парасткі чалавечнасці, калі вакол кроў, смерць, гібель людзей", — сказаў рэжысёр. Ён дадаў, што не мог застацца абыякавым напярэдадні памятнай даты — 60-годдзя перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне.

Паводле слоў М.Абрамава, галоўныя ролі ў спектаклі выконваюць маладыя акцёры, выпускнікі Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Юрый Баранаў і Кірыл Андронаў. Таксама ў пастаноўцы заняты Ганна Лаухіна, Анастасія Салаўёва, Таццяна Новік і іншыя акцёры тэатра.

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

ПО ПРАВДЕ

### Цена доверию — 6 тысяч белорусских рублей?

Направляю Вам любопытный документ с пояснением.

Мой отец, Радыно Валентин Яковлевич, 1921 г. рождения, проживающий в д.Брильки Воложинского района, пенсионер-колхозник, участник ВОВ, поставил "эксперимент" — конечно, сам об этом не подозревая.

Еще в 1994 г. отец открыл срочный счет № 03005171 в "Беларусбанке" и положил на него 200.000 белорусских рублей. А в сентября этого года закрыл счет, получив обратно свои сбережения и начисленные проценты.

А получил он... 6760 рублей (шесть тысяч семьсот шестьдесят).

Конечно же, старик был ошарашен. Защищать Отечество с оружием в руках и затем, не покладая этих рук, тяжело трудиться во "имя коммунизма"... Слышать сегодня изо всех рупоров официальной ура-пропаганды, как в нынешней Беларуси, в отличие от остального, "нехорошего" мира, все ну просто замечательно, стабильно, богато, культурно, красиво — словом, чуть ли не тот же коммунизм... Вспоминать, как, идя в президенты, пламенный борец за народное счастье осыпал доверчивых избирателей сказочными обещаниями, среди которых одним из главных и решивших судьбу тех выборов было "верну вклады населению...". Читать в подкаблучных газетах страшилки-завывания типа "что было бы со страной, не приди десять лет назад к власти Александр Лукашенко..." И вот — реальный результат, зримая цена обещаний, заверений, клятв всенароднонзбранного на примере только одного человека — моего отца.

Филиал/отделение/ 605/ 605
Контролер: ________ /Хоменко И.А.
/подпись/
Кассир: ________
/подпись/
Время: 11:55:43 Дата: 14 сентября 2004г.
В Ы П И С К А С Ч Е Т А 03005171
Срочный-93
РАДЫНО ВАЛЕНТИН ЯКОВЛЕВИЧ
Дата открытия счета: 28 января 1994г.

| Дата | Сумма операции | Остаток |
|---|---|---|
| 31/12/1998 кап | 205,995.00 + | 615,937.00 |
| 31/12/1999 кап | 446,212.00 + | 1,062,149.00 |
| 31/12/1999 ДН | 1,061,087.00 - | 1,062.00 |
| 31/12/2000 кап | 1,285.00 + | 2,347.00 |
| 14/09/2004 +%% | 4,410.00 + | 6,757.00 |
| 14/09/2004 р/о | 3.00 + | 6,760.00 |
| 14/09/2004 н/в | 6,760.00 - | 0.00 |

Наименование операции: Закрытие счета
Остаток: 0.00 СЧЕТ ЗАКРЫТ
С П А С И Б О

Однако давайте разберемся, что же в самом деле получил отец при закрытии счета? Я достоверно знаю, что в октябре 1994 г. за 200.000 рублей можно было приобрести 36 долларов США по цене 5530 тогдашних белорусских рублей. Или купить "жидкую валюту": 41 бутылку водки по цене 4840 рублей. Покупательная способность рубля, как бы ни менялся его номинальный курс, — тут самый верный ориентир.

Почти весь период, связанный с отцовским ожиданием возврата своих сбережений, практически совпадает с правлением президента А.Г.Лукашенко, который много сил положил на укрепление финансовой системы нашей страны и всего остального. Вот и результат, подтвержденный документально.

А теперь каждый может сделать выводы, какова цена доверия словам о стабильности нашей финансовой системы и всего-всего-всего. И за чей счет эта стабильность достигается. Да и вообще не лишне хорошенько подумать — как голосовать на предстоящем референдуме. А может, и не голосовать, чтобы эту стабильность не утвердить навечно своими же руками?

**Мефодий РАДЫНО, начальник участка РУП "Беллифт".**

СИТУАЦИЯ

### «Князь Витовт сбежал с поля боя», —

***пошутила Валентина Полевикова, когда ее конкурент по Купаловскому избирательному участку, кандидат в депутаты Палаты представителей Геннадий Давыдько, узнав, что на встречу со студентами пришла и она, поспешно удалился.***

Валентина Полевикова безуспешно добивалась встречи с избирателями — студентами Технологического университета. Директор студгородка Анатолий Казбан дважды отказывал доверенным лицам кандидата Полевиковой во встрече с молодыми избирателями. Без какой-либо мотивировки.

6 октября Валентина Полевикова узнала, что ее сопернику по участку — директору Национального театра имени Янки Купалы Геннадию Давыдько — разрешено то, что ей запрещали. Студенты позвонили Полевиковой и рассказали, что в общежитии висят объявления о предстоящей встрече с Давыдько...

Ребят на встречу пришло много. Как признавались некоторые из них, прежде всего чтобы посмотреть на актера, сыгравшего роль князя Владимира, мужа Анастасии Слуцкой, в одноименном фильме.

В репертуарном списке Давыдько много прекрасных ролей. Старшее поколение наверняка помнит его по спектаклю "Рядовые", молодое — по прекрасно созданному на сцене Купаловского театра образу нашего национального героя князя Витовта.

— *Встреча была обставлена шикарно,* — говорит Валентина Полевикова. — *Предвыборные листовки Давыдько раздавали не члены его инициативной группы, а студенты, которым, похоже, это поручила сделать администрация общежития.*

*Давыдько приехал за несколько минут до начала встречи. Его задержали в фойе, и в этот момент кто-то позвонил по телефону и сказал ему, что в зале нахожусь я. И он, сославшись на то, что ему надо срочно уехать, покинул общежитие. "Князь Витовт" сбежал с поля боя.*



*В роли национальных героев Давыдько выглядит значительно лучше...*

Сам Давыдько свой срочный отъезд журналистам прокомментировал так: "Возникли срочные дела". Валентина Полевикова воспользовалась своим законным правом и успела сказать студентам, на ее взгляд, главное: чтобы они не шли голосовать досрочно, потому что тогда их бюллетени смогут заменить другими...

В четверг вечером Валентина Полевикова все же встретилась со своим соперником. Это произошло на встрече с избирателями во Дворце культуры ОАО "Элема".

Давыдько выступал первым. Речь Геннадия Брониславовича напоминала монологи Александра Лукашенко: оппозиция плохая, вокруг границы враги с ящиками долларов, готовые скупить Беларусь. Зал на выступление артиста реагировал бурно. И когда стал засыпать Геннадия Брониславовича "неудобными" вопросами, подумалось, что в роли национальных героев Давыдько выглядит значительно лучше, чем в роли политика...

**Мария ЭЙСМОНТ.**

ДУХОЎНЫ СКАРБ

*Радзім ГАРЭЦКІ*

# Побач з Вялікім

*(Працяг. Пачатак у №189.)*

Успамінаю ўстаноўчы сход Беларускага народнага фронту "Адраджэньне", які адбыўся 24—25 чэрвеня 1989 г. у Вільні. У Беларусі яго правесці было немагчыма, бо ішоў пераслед дзеячаў БНФ і гвалтоўныя разгоны мітынгаў (такіх, як рэквіем на "Дзяды", — з выкарыстаннем газаў). Аргкамітэт БНФ, у які ўваходзіў і В.Быкаў, быў афіцыйна сфарміраваны яшчэ ў кастрычніку 1988 г. Раніцою больш за 400 чалавек, галоўным чынам на цягніку, прыехалі ў Вільню. Быў добры сонечны дзень. Хаця ехалі мы "падпольна", але ў вагонах было шумна і весела, адчуваўся нейкі ўнутраны ўздым. На вакзале больш чым звычайна круціліся міліцыянтаў і маладых спартыўнага тыпу хлопцаў. Толькі прыехалі — і адразу аднекуль, як па чарадзействе, з'явіліся бел-чырвона-белыя сцягі і эмблемы "Пагоня", якія горда ўзняліся над натоўпам беларусаў. Так мы вялікімі групамі і хадзілі ўсе два дні — адкрыта, без страху, радасныя, з гонарам, з беларускімі песнямі і воклічам "Жыве Беларусь!". Віленчукі, якія перад гэтым ужо перажылі нешта падобнае, сустракалі нас вельмі прыхільна, махалі рукамі, падбадзёрвалі. Большасць прыезджых беларусаў размясцілі на ноч у сваіх кватэрах жыхары Вільні.

З'езд праходзіў у Палацы прафсаюзаў, зала была запоўнена. Выступленне Васіля Быкава сустрэлі моцнымі воплескамі. Ён падкрэсліў, што сюды, у святы для нашых народаў горад, сабраў нас клопат пра будучыню Беларусі. Што сваё выйсце мы павінны знайсці самі. Што народ павінен стварыць дзяржаву на сапраўды дэмакратычных пачатках для ўсіх, хто жыве ў ёй і паважае яе гісторыю, мову, культуру. Што поспех усёй нашай справы будзе залежаць ад ступені палітычнай і нацыянальнай свядомасці самога народа Беларусі. Што мы ступілі на цяжкую дарогу дэмакратычнага пераўтварэння жыцця і на гэтай дарозе нас чакае рознае. У канцы выступлення ён заклікаў: "За справу, за працу!" Быкаў быў абраны ў Сойм БНФ.

Узрушаныя, вароча́ліся мы дадому, шумна размаўлялі, дзяліліся незабыўнымі ўражаннямі, спявалі беларускія песні. У многіх вокнах развіваліся нашы бел-чырвона-белыя сцягі. Але чым бліжэй быў Мінск, тым цішэй рабіліся мы. Менш стала сцягоў, бо пачалі думаць, будзе "хапун" ці не. Хаця "сустракаючых" было шмат, але абышлося ўсё больш-менш спакойна: заўвагі рабілі толькі тым, хто не схаваў сцягі, іх вырывалі з рук. Па дарозе і асабліва на самім з'ездзе многа было нейкіх людзей з відэакамерай. Ужо значна пазней адзін мой прыхільнік з ЦК КПБ сказаў, што бачыў мяне на праглядзе відэаматэрыялаў са з'езда і дадаў: "Што ж вы так "засвяціліся"? Вы ж дырэктар Інстытута — наменклатура ЦК, і трэба быць больш асцярожным, могуць быць вялікія для вас непрыемнасці".

Яўген Лецка, які быў ініцыятарам утварэння Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", далучыў Васіля Быкава і мяне ў адпаведны Аргкамітэт, а затым да розных мерапрыемстваў гэтай арганізацыі. На ўстаноўчай канферэнцыі 10 верасня 1990 г. адбыліся нашы выступленні. Васіля Быкава абралі прэзідэнтам Згуртавання, а мяне — сябрам Рады. Быкаў адзначыў, што добрыя людзі найбольш згодна жывуць па прынцыпах крэўнасці, таму і нам, беларусам, час згуртавацца цясней і імкнуцца да запаветнай мэты.

Затым у снежні 1992 г. адбыўся першы сход беларусаў блізкага замежжа, і, нарэшце, у ліпені 1993 г. — Першы з'езд беларусаў свету, сустаршынёй якога быў Васіль Быкаў. Ён жа і адкрыў уступным словам з'езд, што было вельмі сімвалічна: Янка Купала марыў аб такім, і за восемдзесят год да таго ён кінуў кліч: **"На вялікі сход! Па Бацькаўшчыну!"** І вось менавіта пераемнік народнага Прарока Васіль Быкаў ажыццяўляў тую мару і кліч. Так з'езд, які арганізавала ЗБС "Бацькаўшчына" пры значнай падтрымцы і дапамозе тагачасных дзяржаўных улад, меў галоўнай ідэяй незалежнасць і нацыянальнае Адраджэнне, а галоўнай мэтай — дзяржаўнае будаўніцтва Беларусі. Тады мы з надзеяй глядзелі ў будучыню, і нам здавалася, што гэты з'езд — толькі пачатак магутнага працэсу новага нацыянальнага Адраджэння. Але ў хуткім часе ўпэўніліся, што то быў яго апагей, бо ў далейшым, асабліва пасля выбараў прэзідэнта і яго ганебных рэферэндумаў, краіна пачала падаваць назад, у былы СССРаўскі парадак...

В.Быкаў падкрэсліваў: "...І на Радзіме, як і ў эміграцыі, — ідэйна-палітычны вэрхал, што настаў пасля дзесяцігоддзяў таталітарызму. І тут нацыя, роднасная па крыві, раскалата, разладжана, разбэшчана, размыта палітычна, а цяпер і ў сацыяльным, маральным, моўным і культурным сэнсе. [...] Але гэтая славутая талерантнасць, здаецца, робіцца нашым злым ліхам. Пасіянарнасці нестае нашай нацыі, палітычнае волі нашаму грамадству, як і нацыянальнай выразнасці таго ж грамадства.

[...] Мы не маем права забываць злачынства нямецкага фашызму, як і камуністычных НК, НКУС, КДБ, рукамі якіх згублена не меней, чым загінула ў гады вайны. Магілы іх ахвяр скрозь на беларускай зямлі...

[...] Распалася савецкая імперыя, але ў нас у галоўным мала што змянілася ад гэтага. Нават тыя малыя рэшткі дэмакратыі і свабоды, якія велізарнымі высілкамі дэмакратычных сіл, найперш іх авангарду — Беларускага Народнага Фронту — адваяваны ў камуны, рызыкуюць быць адабранымі назад.

Радзіма патрэбна дыяспары, але і дыяспара патрэбна Радзіме. Аптымальны сацыяльна-палітычны лад можа быць збудаваны толькі агульнымі намаганнямі, толькі высілкамі ўсёй нацыі, як метраполіі, так і дыяспары. [...] Патрэбна аб'яднанне, калі толькі мы хочам вылезці з прорвы, з гэтай ваўчынае пасткі, у якой апынуліся напрыканцы XX стагоддзя".

Мне было вельмі прыемна, калі Васіль Уладзіміравіч пахваліў мяне за асноўны даклад "Нацыянальная ідэя і адбудова беларускай дзяржаўнасці", які я зрабіў ад імя Рады ЗБС "Бацькаўшчына". З яшчэ большым хваляваннем я пачуў, што ён прапануе абраць мяне прэзідэнтам Згуртавання, і адчуў асабліва вялікую адказнасць, што прымаю гэтую пасаду пасля і з рук нашага Васіля Быкава. Працаваць прыйшлося 8 гадоў (два тэрміны).

У пачатку 1994 г. Бюро Прэзідыума АН Беларусі вырашыла абраць ганаровых і замежных членаў акадэміі. Апошнія такія выбары былі 35 гадоў таму. Я зрабіў многа намаганняў, каб такія выбары адбыліся, бо лічыў іх першым крокам да аб'яднання беларускай інтэлігенцыі на шляху нацыянальнага адраджэння. Як віцэ-прэзідэнт я курыраваў Аддзяленне хімічных навук і навук аб Зямлі і Аддзяленне гуманітарных навук, таму з магчымымі кандыдатамі гэтых навуковых напрамкаў мне прыйшлося весці размовы аб іх згодзе.

Сярод гуманітарыяў першым кандыдатам быў народны пісьменнік Васіль Быкаў. Пазваніў яму. Ён папрасіў даць яму падумаць, а на наступны дзень катэгарычна адмовіўся: "Не хачу ніякай ласкі ад сучасных улад, у тым ліку і ад акадэміі. Я ў такой акадэміі нават ганаровым быць не хачу, бо яна поўнасцю савецкая і вы вымушаны будзеце хутка выбіраць такіх камуністаў, як Іван Антановіч, а я побач з ім сядзець не буду. Я б з прыемнасцю адмовіўся і ад мінулых узнагарод — у той час гэта зрабіць было нельга. Яны мне перашкаджаюць жыць. Я вас паважаю і ўдзячны за прапанову, але павінен адмовіцца". І праўда, праз некалькі гадоў кандыдатам у члены-карэспандэнты АН Беларусі вылучылі Антановіча (праўда, не абралі).

...19 ліпеня 1994 г. раніцою каля помніка Янкі Купалы адзначалі 70-годдзе Васіля Быкава. Нягледзячы на тое, што сапсавалася надвор'е і пайшоў дробны дождж, народ не разыходзіўся. Цёплыя словы ў гонар юбіляра сказалі Зянон Пазьняк, Вітаўт Кіпель, Ніл Гілевіч, потым я і Рыгор Барадулін. Увечары з не меншай цеплынёй, шчырасцю і пашанай віншавалі Васіля Уладзіміравіча ў сядзібе БНФ на вул.Варвашэні. Памяшканне было напоўнена яго сапраўднымі прыхільнікамі і сябрамі, якія выказвалі народнаму пісьменніку падзяку за выдатныя творы і грамадскую дзейнасць, жадалі здароўя, поспехаў, шчасця, росквіту Беларусі, чыталі вершы, спявалі беларускія песні. Была атмасфера сапраўднага свята. Юрась Хадыка, які вёў бяседу, неспадзявана даў мне слова першаму. Васіль Уладзіміравіч быў расчулены, мы абняліся і пацалаваліся. Ён звярнуўся да Р.Барадуліна і мяне: "Усё ж Гарэцкія — вельмі цікавы, надзвычайны феномен, які трэба было б як мае быць вывучыць".

Зноў сустрэўся я з Васілём Уладзіміравічам у снежні 1994 г. у гасцёўні Ул.Галубка на выстаўцы "Воля! Роўнасць! Незалежнасць!", прысвечанай 200-годдзю вызвольнага паўстання 1794 г. Яе вёў старшыня аргкамітэта па святкаванні Мікола Купава, які чамусьці даў першае слова мне. Я адзначыў, што не народы (рускія, палякі, беларусы і іншыя) змагаліся і біліся паміж сабой як людзі розных нацыянальнасцяў (хаця гінулі больш за ўсё менавіта простыя людзі), а ішло змаганне супраць імперыі, таталітарызму, прыгнёту. Яно працягваецца і цяпер супраць бальшавіцкага таталітарызму. Затым Васіль Уладзіміравіч Быкаў у сваім слове зазначыў, што воля, незалежнасць, за якія змагаўся Касцюшка і яго паплечнікі, ужо набылі некаторую рэальнасць у Польшчы, ёсць у Амерыцы, але, на жаль, іх зусім няма ў беднага беларускага народа, і змаганне за гэтыя ідэалы павінна пашырацца. Але ў яго словах і ва ўсім выглядзе адчуваўся вялікі сум, сумненне ў тым, ці адбудзецца ўсё гэта калі-небудзь у Беларусі...

Пагаварылі мы з ім пра падзеі таго часу: зняцце з пасады беларускага пасла ў Германіі П.Садоўскага, ноту Турцыі ў сувязі з "турэцка-польскімі шпіёнамі", моцныя "абдымкі" Расіі і г.д. Потым пайшлі разам паглядзець карціны. Я ведаў, што Васіль Уладзіміравіч вучыўся на мастака і сам многа маляваў, але мяне здзівілі яго прафесійныя і вельмі трапныя ацэнкі многіх палотнаў. Пра творы мадэрновага напрамку гаварыў: "Добра намалявана, але няма цяпла..." Успомніў сваю нядаўнюю сустрэчу ў Маскве з папулярным мастаком М.Шамякіным. І раптам, схапіўшы мяне за руку, дадаў: "А хочаце, пакажу вам сапраўдную карціну?" Ён падвёў мяне да амаль чорна-белага рэалістычнага палатна, на якім была раўніна з рэдкімі кустамі — просты беларускі пейзаж, у якім адчуваліся спакой, вечнасць і... бедната... Ён абагуліў: "Вось гэта кранае, аж плакаць хочацца..."

Калі адвозіў В.Быкава на машыне, мы ўспомнілі, як у студзені хавалі нашага незабыўнага сябра Алеся Адамовіча. Васіль Уладзіміравіч гаварыў, што трэба паставіць яму помнік на могілках, і папрасіў мяне адшукаць добры валун і падумаць, каго са скульптараў прасіць зрабіць надмагілле.

Ён хваляваўся за помнік сябру. І падчас пахавання Пімена Панчанкі (2 красавіка 1995 г.), і на VI з'ездзе БНФ (8 красавіка 1995 г.), і на II Міжнародным кангрэсе беларусістаў (16 траўня 1995 г.) нагадваў мне пра валун. У самым канцы траўня ў маім кабінеце ў Прэзідыуме АН Беларусі сабраліся Васіль Быкаў, Валерый Янушкевіч, Міхась Тычына, мы абмяркоўвалі, якім павінен быць помнік. Вырашылі: вельмі сціплым і простым: на акруглым валуне — надпіс "Алесь Адамовіч", а крыху вышэй — невялікі крыж. У калекцыі музея валуноў Інстытута геахіміі і геафізікі мы з В.Янушкевічам і Верай Сымонаўнай Адамовіч адабралі прыгожы светла-чырвоны камень з хвалістымі пражылкамі, якія нагадваюць пра жыццё, поўнае хвалявання і неспакою. На пачатку верасня 1995 г. сабраўся Другі міжнародны кангрэс у абарону дэмакратыі і культуры "Незалежная прэса: свабода і адказнасць", які быў арганізаваны Беларускім ПЭН-цэнтрам і які завяршыўся адкрыццём помніка Алесю Адамовічу на радзіме пісьменніка ў Глушы. Тут, побач з бацькамі і братам, знайшоў супакой мяцежны дух гэтага выдатнага пісьменніка, навукоўца і грамадскага дзеяча, шчырыя словы пра якога сказалі Янка Брыль, Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін і іншыя.

*(Заканчэнне ў наступным нумары.)*

*Алесь Адамовіч і Васіль Быкаў.* Фота Яўгена КОКТЫША.

# 9—17 кастрычніка ШТО? ДЗЕ? КАЛІ?

## ТЭАТРЫ

**Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы**

***9 кастрычніка*** — "Я не пакіну цябе".
***12, 13, 14 кастрычніка*** — "Эрык XIV".
***16 кастрычніка*** — "Беларусь у фантастычных апавяданнях".
***17 кастрычніка*** — "Муж для паэтэсы".

**Нацыянальны акадэмічны тэатр балета**

***10 кастрычніка*** — Б.Паўлоўскі "Белоснежка и семь гномов", балет у дзвюх дзеях.
***13 кастрычніка*** — К.Орф "Кармина Бурана", балет у адной дзеі. І.Стравінскі "Весна священная", балет у адной дзеі.
***15 кастрычніка*** — Я.Глебаў "Легенда об Уленшпигеле", балет у дзвюх дзеях.
***17 кастрычніка*** — С.Пракоф'еў "Ромео и Джульетта", балет у трох дзеях.

**Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы**

***9 кастрычніка*** — М.Рымскі-Корсакаў "Царская невеста", опера ў чатырох дзеях.
***10 кастрычніка*** — В.-А.Моцарт "Свадьба Фигаро", опера ў чатырох дзеях.
***12 кастрычніка*** — А.Барадзін "Князь Игорь", опера ў дзвюх дзеях.
***14 кастрычніка*** — "Звучит романс", канцэрт.
***16 кастрычніка*** — Дж.Пучыні "Турандот", опера ў трох дзеях.
***17 кастрычніка*** — Ц.Кюі "Кот в сапогах", опера ў дзвюх дзеях.

**Беларускі тэатр юнага гледача**

***10 кастрычніка*** — Э.Портар "Паліяна", спектакль у трох дзеях. На эксперыментальнай сцэне — С.Навуменка "Золотое сердечко", казка ў дзвюх дзеях.
***12 кастрычніка*** — С.Кавалёў "Тарас на Парнасе", сцэнічны жарт.
***13, 14 кастрычніка*** — Ю.Кім, Л.Эйдлін "Натуры злой належны плён", музычная камедыя паводле п'есы Дз.Фанвізіна "Недаростак".
***15 кастрычніка*** — П.Васючэнка "Рыцар Ордэна Сонца", музычны спектакль у дзвюх дзеях.
***16 кастрычніка*** — С.Навуменка "Каліф-башмачнік", усходняя казка ў дзвюх дзеях. На эксперыментальнай сцэне — М.Лявончык, Н.Башава "Последняя дуэль", спектакль у адной дзеі.
***17 кастрычніка*** — А.Хайт "Дзень нараджэння ката Леапольда".

**Беларускі дзяржаўны маладзёжны тэатр**

***9 кастрычніка*** — Б.Шоу "Пигмалион", раман у дзвюх дзеях.
***10, 15 кастрычніка*** — І.Б.Зінгер "Тойбеле и ее демон", трагікамедыя. А.Тарахоўская "По щучьему велению", казка.
***12 кастрычніка*** — П.О.Бомаршэ "Безумный день, или Женитьба Фигаро", камедыя.
***13 кастрычніка*** — Ж.Б.Мальер "Плутни Скапена", камедыя.
***14 кастрычніка*** — П.Бэкеш "На глазах у женской береговой охраны", камедыя.
***16 кастрычніка*** — Лопэ дэ Вэга "Хитроумная влюбленная", камедыя.
***17 кастрычніка*** — В.Кандрацьеў "Лейтенант Володька", драма.

**Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі**

***9, 10 кастрычніка*** — "Хрустальны туфлік", казка.
***9, 17 кастрычніка*** — Д.Альмагор "Толькі дурні сумуюць", спектакль-прытча.
***10 кастрычніка*** — Я.Таганаў "Адэль", гісторыя кахання ў дзвюх дзеях.
***12 кастрычніка*** — В.Панін "Песні ваўка", драматычна-пластычная элегія.
***13 кастрычніка*** — Я.Купала "Адвечная песня", рок-опера.
***14 кастрычніка*** — С.Алексіевіч "Чарнобыльская малітва".

**Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М.Горкага**

***9 кастрычніка*** — Ж.-Ф.Рэньяр "Единственный наследник", камедыя. Дж.Радары "Джельсомино в стране лгунов", музычная гісторыя.
***10 кастрычніка*** — А.Дудараў "Люти", меладраматычны дэтэктыў.
***13 кастрычніка*** — Ф.Дастаеўскі, Э.Радзінскі "Рулетка", драма пакаяння з аблегчаным фіналам.
***14 кастрычніка*** — А.Еранькоў "Анджело и другие", рок-опера.
***15 кастрычніка*** — Г.Гауптман "Перед заходом солнца", гісторыя кахання.
***16 кастрычніка*** — "Перпетуум мобиле, или Вечер еврейского анекдота". Дж.Радары "Джельсомино в стране лгунов", музычная гісторыя.
***17 кастрычніка*** — Дж.Марота, Б.Ранданэ "Утешитель вдов", камедыя.

**Тэатральны праект "Віртуозы сцэны"** ***прадстаўляе***

***9 кастрычніка — у Палацы спорту*** — гала-прадстаўленне 25 зорак фігурнага катання з удзелам **Ірыны Слуцкай, Ігара Бобрына, Наталлі Бесцям'янавай, Андрэя Букіна, Артура Дзімітрыева, Аксаны Казаковай** і іншых.

**Маладзёжны тэатр эстрады**

***9 кастрычніка*** — народны ансамбль "Рунь" з канцэртнай праграмай "Цыганские напевы".
***14 кастрычніка*** — экстрадна-тэатралізаване шоу "Эстрадный коктейль".
***15 кастрычніка*** — вакальна-харэаграфічны праект "Белый голубь".

**Беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра "Зьніч"**

***11 кастрычніка*** — "Адзінокі птах", монаспектакль аб жыцці і смерці Адама Міцкевіча.

**Сучасны мастацкі тэатр**

***9 кастрычніка*** — Ж.Б.Мальер "Жорж Данден, или Одураченный муж".
***10 кастрычніка*** — А.Ліндгрэн "Малыш и Карлсон".
***16 кастрычніка*** — Б.Брэхт "Мещанская свадьба".
***17 кастрычніка*** — К.Драгунская "Все мальчишки — дураки".

## ВЫСТАВЫ

**У Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі** 15 кастрычніка — урачыстае адкрыццё выставы мастацкіх твораў са збору Нацыянальнага мастацкага музея Кітайскай народнай рэспублікі. Выстава будзе працаваць толькі адзін тыдзень.

ХОЧАЦЕ — ВЕРЦЕ, ХОЧАЦЕ — НЕ ВЕРЦЕ

# Будучы тыдзень: зоркі прадказваюць

**АВЕН.** Бярыце тое, што вам даюць, а не тое, што дрэнна ляжыць. Інакш праблем з навакольнымі потым не абярэцеся. Акрамя таго, не пытайцеся выдаваць чужыя ідэі за ўласныя, злёгку змяніўшы іх. Спрыяльныя дні — 12 і 15, неспрыяльны — 14.

**ЦЯЛЕЦ.** Ваша ініцыятыва будзе пакарана. Так што вам лепш за ўсё аддаць яе (ініцыятыву) у рукі навакольных і цалкам падпарадкавацца іх умовам, прыняць іх правілы гульні. Спрыяльны дзень — 16, неспрыяльных няма.

**БЛІЗНЯТЫ.** У вас з'явіцца някепскі шанц зарабіць нечаканыя грошы. Праўда, лёгкім гэты заробак назваць ніяк нельга: "прыварак" дастанецца вам потам и крывёй. Спрыяльныя дні — 13 і 15, неспрыяльны — 11.

**РАК.** Ці варта сябе няволіць? Займайцеся тым, што ў вас нязменна добра атрымліваецца. Пусть нават гэта будзе не праца, а хобі. Могуць узнікнуць праблемы з кар'ерай. Спрыяльныя дні — 12 і 16, неспрыяльны — 14.

**ЛЕЎ.** Вам павінна пашанцаваць і ў грошах, і ў каханні. Любая справа, за якую вы возьмецеся, хутка прынясе прыбытак. А вось па-маладзецку ўправіцца з хатнімі справамі, што назапасіліся, не атрымаецца. Спрыяльныя дні — 12 і 15, неспрыяльных няма.

**ДЗЕВА.** Рызыка — высакародная справа, але ўсё ж адмоўцеся ад яе. І на працы, і ў асабістым жыцці. Абыходзьце бокам гульнявыя апараты. Не пытайцеся папоўніць кашалёк нячэсным шляхам. Спрыяльны дзень — 16, неспрыяльны — 11.

**ШАЛІ.** Калі вы думаеце папоўніць багаж ведаў, павысіць прафесійны ўзровень, то выбралі выдатны момант. Аднак, калі вы вырашылі патраціць шмат грошай, спыніцеся. Спрыяльныя дні — 12,13 і 15, неспрыяльны — 14.

**СКАРПІЁН.** Вам падчас не хапае пачуцця гумару — не варта ставіцца сур'ёзна да прапаноў навакольных. У гэтыя дні вы напэўна апынецеся ў цэнтры ўвагі сяброў і блізкіх. Спрыяльны дзень — 16, неспрыяльных няма.

**СТРАЛЕЦ.** Не дазваляйце вадзіць сябе за нос і садзіцца сабе на шыю. Нават свая ноша на гэты раз будзе непасільна цяжкай. Спрыяльныя дні — 12,13,15 і 17, неспрыяльны — 11.

**КАЗЯРОГ.** Вы будзеце непрадказальнымі і здзівіце нават саміх сябе. Пастарайцеся знайсці годнае прымяненне сваім новым талентам, якія нечакана ў вас прачнуцца. Спрыяльны дзень — 16, неспрыяльны — 14.

**ВАДАЛЕЙ.** Майце слых на семярых! Не варта паддавацца беспадстаўнаму аптымізму і верыць заманлівым абяцанням малазнаёмых людзей. Пастарайцеся не даваць волі эмоцыям. Спрыяльныя дні — 13,15 і 17, неспрыяльных няма.

**РЫБЫ.** Вам прыйдзецца задаволіцца роляй другога плану. Але гэта не так ужо і кепска. У той час як хтосьці будзе зарабляць сабе лаўры пераможцы, вы зможаце спакойна прааналізаваць сітуацыю. Спрыяльны дзень — 16, неспрыяльны — 11.

# Філатэліст, бягом на выставу!

У Мінску, у Нацыянальным мастацкім музеі, адкрылася IV нацыянальная філатэлістычная выстава, прысвечаная 60-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне.

Старшыня аргкамітэта выставы, намеснік міністра сувязі і інфарматызацыі Ніна Гаўрылава адзначыла, што тэма мінулай вайны дагэтуль хвалюе насельніцтва Беларусі. "Агульнапрызнана, што паштовая марка з'яўляецца старонкай летапісу гісторыі і культуры эпохі. Філатэлія пашырае кругагляд людзей і прывівае навыкі даследавання. За перыяд з 20 сакавіка 1992 года, калі была выпушчана першая паштовая марка краіны з выявай крыжа Еўфрасінні Полацкай, выдадзена 580 філатэлістычных мініяцюр. На 42 з іх выяўлены выдатныя дзеячы нацыянальнай гісторыі і культуры, 97 прысвечана мастацтву, 27 — фондам Нацыянальнага мастацкага музея, 58 — помнікам архітэктуры, 14 — народным касцюмам, 39 — спорту, 32 — навуцы і тэхніцы, 160 — флоры і фауне, 73 — гарадской геральдыцы і 12 — подзвігу народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны", — сказала Н.Гаўрылава.

Выстава працягнецца да 14 кастрычніка.

**Марат ГАРАВЫ.**

## ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ

### Понедельник, 11 октября

**БТ**

**07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12,00, 14.00, 15.00, 17.00, 18.00, 23.00** Новости.
**07.05, 07.35, 08.10, 08.35** "Доброе утро, Беларусь!".
**07.30, 08.30, 20.00** "Деловая жизнь".
**09.05** "В центре внимания".
**10.05** "Існасць".
**10.30** "Пой, душа!".
**11.05, 17.05 "Богатые и знаменитые".** Сериал.
**12.10 "Побег с Елисейских полей".** Мелодрама.
**14.05** "Зона Х".
**14.20** "Ваше лото". Телеклуб.
**15.20** "Невероятные приключения командора Кусто". Мультсериал.
**15.40** "5 чудес".
**15.50** "Созвездие надежд".
**16.30** Футбол. Видеожурнал Лиги чемпионов.
**18.15** "Выборы-2004".
**19.00** "Размышления на тему".
**19.05** "Земельный вопрос". Общественно-политическая программа.
**19.30** "Время спорта".
**20.05 "Возвращение Мухтара".** Сериал.
**21.00** "Панорама".
**21.50** "Специальный репортаж".
**22.00 "Похищение Синатры".** Детектив.

**ОНТ**

**07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 18.00, 20.30, 23.10** "Наши новости".
**07.05** "Наше утро".
**09.05** "Контуры".
**09.50, 15.50** "Дом". Реалити-шоу.
**15.00 "Женщины в любви".** Сериал.
**16.35** "Угадай мелодию".
**17.00** "Пять вечеров".
**18.15** "Жди меня".
**19.05 "Клон".** Сериал.
**20.00** "Время".
**21.00** "Выбор". Ток-шоу.
**22.00 "Московская сага".** Сериал.
**23.25** "Народный артист".
**23.40** "Русский экстрим".

**РОССИЯ**

**07.45** "Вести недели".
**08.45, 16.40 "Ундина. На гребне волны".** Сериал.
**09.40** "В Городке".
**09.50, 18.50** "Вести. Дежурная часть".
**10.00, 16.00, 19.00** "Вести".
**10.30, 19.30** "Местное время. Вести — Москва".
**10.50 "Бедная Настя".** Сериал.
**11.50, 19.55** "Что хочет женщина".
**16.10** "Честный детектив".
**17.40 "Бандитский Петербург". "Барон".** Сериал.
**19.50** "Спокойной ночи, малыши!"
**21.00 "Сармат".** Сериал.
**22.00** "Вести +".
**22.20** "Мой серебряный шар".
**23.15** "Эксперт".
**23.30** "Синемания".

**ЛАД**

**06.30** EURONEWS.
**08.00, 14.00, 20.45** Новости.
**08.10** "Метеосфера".
**08.20** ("Культура") "Линия жизни".
**09.15** ("Культура") "Атланты. В поисках истины".
**09.40 "И смех, и беда".** Худ.фильм.
**10.20** Женсовет.
**10.35 "Потому что люблю".** Мелодрама.
**12.00** "Обычный необычный день". Семейный канал.
**12.30 "39 ступеней".** Детектив.
**14.10** "Мир природы".
**14.40** "Не зевай!"
**15.20** "Бум".
**15.45 "Нежный возраст".** Сериал.
**16.10** "Сама себе хозяйка".
**16.25** "Художники и Прованс". Док.сериал.
**16.50** "Из архивов БТ".
**17.15** "Вия Артмане. Королева кино". Видеофильм АТН.
**17.35** "Мгновение вечности".
**18.00** "Выборы-2004".
**19.00 "Театральные истории".** Худ.фильм.
**19.45** "Дела семейные".
**20.30** "Колыбельная".
**21.00** ("Культура") "Сферы".
**21.40** ("Культура") "В вашем доме".

**НТВ**

**09.00, 15.00, 18.00** "Сегодня".
**09.20** "Криминальная Россия".
**09.55 "Агент национальной безопасности-5".** Сериал.
**15.20** "Принцип домино". Ток-шоу.
**16.25 "Каменская".** Сериал.
**17.35** "Чрезвычайное происшествие".
**18.40 "Граф Крестовский".** Худ.фильм.
**19.50 "Кодекс чести".** Боевик.
**21.00** "Страна и мир".
**21.40 "Секс в большом городе".** Сериал.
**22.20** "Школа злословия".

**СТВ+RenTV**

**06.45** "Утро столицы".
**07.30** "168 часов".
**08.20, 23.15** "Технология".
**08.40** "Минск и минчане".
**09.00** "Таракан-робот". Мультфильм.
**09.25 "Банзай".** Комедия.
**11.10** "Личный интерес".
**12.00** "Час суда".
**13.00** "Криминальное чтиво".
**13.30, 16.30, 19.30, 22.50** "24 часа".
**13.50, 18.30 "Солдаты".** Сериал.
**14.50 "Пауэр рейнджерс, или Могучие рейнджеры. Потерянная галактика".** Сериал.
**15.15** "Рыцари-забияки". Мультсериал.
**15.40** "Кот по имени Ик". Мультсериал.
**16.05** "Пес в сапогах". Мультфильм.
**16.50** "Игровой рефлекс".
**17.00 "Дружная семейка".** Сериал.
**17.50** "Минщина. Люди, события, факты".
**18.00** "Арт-экспресс".
**18.15** "Добро пожаловаться".
**20.05** "СТВ-спорт".
**20.25** "Кадровый вопрос".
**20.40** "Добрый вечер, малыш".
**20.55 "Кровожадные сороконожки".** Триллер.
**23.35** "Столичный футбол".
**00.05** "Большая музыка".
**00.45** "Новости СНГ".

**8-Й КАНАЛ**

**07.00 "Крах инженера Гарина".** Худ.фильм.
**08.10, 17.50** "Телемагазин".
**08.30** "Классика Уолта Диснея".
**09.10** "К-игра".
**09.15** "Россия — взгляд на власть". Док.сериал.
**09.40, 19.50 "Бригада".** Сериал.
**10.25** "К-видео" — "Топ-8".
**10.30 "Вместо жены".** Мелодрама.
**16.30** "Мультпарад" от "Бюргера".
**16.45 "Капитан Немо".** Худ.фильм.
**18.00 "Гладиатор-2000".** Боевик.
**19.45** "Мобилизация".
**20.45** "Вечарніца".
**21.00** "Атомик Филмз" и "К-видео" представляют...
**21.10 "Тумстоун".** Вестерн.

**ТВ ЦЕНТР**

**Уважаемые читатели! Телеканал приносит извинения за перерыв в работе в связи с профилактикой до 17.00**
**17.00, 21.00** "События. Время московское".
**17.15** "Алфавит". Телеигра.
**18.00 "Таковы эти женщины".** Сериал.
**18.50** "Пять минут деловой Москвы".
**18.55 "Дело "Пестрых".** Детектив.
**21.45** "Особая папка".
**22.25** "Времечко".
**22.55** "Петровка, 38".
**23.15** "25-й час. События. Время московское".
**23.40** "Очевидное-невероятное".
**00.10** "Поэтический театр Романа Виктюка".

**EUROSPORT**

**09.30, 12.30** Мотоспорт по выходным.
**10.00** Мотогонки. Гран-при Малайзии.
**11.00, 18.00** Плавание. Чемпионат мира в США.
**13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 20.30** Футбол. Кубок мира в Германии. Квалификационный круг.
**20.00** Мультиспорт. "Всякая всячина".
**22.00** Сумо. Гранд-турнир (Башо) в Японии.
**23.00** Бокс. Международные соревнования.
**00.15** Новости "Евроспорта".
**00.30** Ралли-рейд. Кубок мира в Египте.
**01.00** Автогонки. "Формула-3" в Голландии.
**02.00** Мотогонки. Соревнования в Италии.

### Вторник, 12 октября

**БТ**

**07.00, 08.00, 09.00, 15.00, 17.00, 18.00** Новости.
**07.05, 07.35, 08.10, 08.35** "Доброе утро, Беларусь!".
**07.30, 08.30, 20.00** "Деловая жизнь".
**Внимание! С 09.05 до 15.00 — техническая профилактика.**
**15.15** "Марсупилами-2". Мультсериал.
**16.00** "5х5".
**17.05 "Терион".** Сериал.
**17.30** "Шпилька".
**18.15 "Богатые и знаменитые".** Сериал.
**19.05** "Арсенал".
**19.30** "Зона Икс".
**19.45** "Между нами".
**20.05 "Возвращение Мухтара".** Сериал.
**21.00** "Панорама".
**21.50** "Портреты современников". Видеофильм АТН.
**21.55** Футбол. Отборочный турнир чемпионата Европы среди молодежных команд. Италия—Беларусь. Прямая трансляция. (В перерыве — Новости).

**ОНТ**

**07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 18.00, 20.30, 23.45** "Наши новости".
**07.05** "Наше утро".
**09.05, 18.55 "Клон".** Сериал.
**09.55, 15.50** "Дом". Реалити-шоу.
**10.40** "Дисней-клуб".
**14.50 "Женщины в любви".** Сериал.
**16.35** "Фабрика звезд".
**17.00** "Пять вечеров".
**18.15** "Пан или пропал".
**20.00** "Время".
**21.00** "Без срока давности".
**21.30 "Улицы разбитых фонарей".** Сериал.
**22.40 "Московская сага".** Сериал.
**00.00** "Народный артист".
**00.15** "Не только о футболе".

**РОССИЯ**

**08.45, 16.40 "Ундина. На гребне волны".** Сериал.
**09.45, 18.50** "Вести. Дежурная часть".
**10.00, 16.00, 19.00** "Вести".
**10.30, 19.30** "Местное время. Вести — Москва".
**10.50 "Бедная Настя".** Сериал.
**11.50** "Что хочет женщина".
**16.10 "Кулагин и партнеры".** Сериал.
**17.40 "Бандитский Петербург". "Барон".** Сериал.
**19.50** "Спокойной ночи, малыши!"
**21.00 "Сармат".** Сериал.
**22.00** "Вести +".
**22.20** "Кремлевские асы". Док.фильм.
**23.15** "Эксперт".
**23.30 "Вихрь".** Боевик.

**ЛАД**

**06.30** EURONEWS.
**08.00, 14.00, 20.45** Новости.
**08.10** "Вкусное утро".
**08.20** ("Культура") "Сферы".
**09.00** ("Культура") "В вашем доме".
**09.40** "Портрет мастера. Жорж Санд". Док.фильм.
**10.40** "Женсовет".
**10.50 "Чужой случай".** Мелодрама.
**12.05** "Обычный необычный день".
**12.35 "Давай поженимся".** Мелодрама.
**14.10** "Дача+".
**14.40** "Орхидеи Беларуси". Док.фильм.
**15.00** "Не зевай!".
**15.10** "Бум".
**15.40** "Крот и телевизор". Мультфильм.
**15.45 "Нежный возраст".** Сериал.
**16.10** "Мой город. Чечерск".
**16.20** "Язык танца". Док.фильм.
**16.50** "Из архивов БТ".
**17.05** "Крево". Док.фильм.
**17.25** "Отражения".
**17.45 "Было у отца три сына".** Драма.
**18.55 "Долгая дорога в дюнах".** Сериал.
**19.45** "Дела семейные".
**20.30** "Колыбельная".
**21.00** ("Культура") "Эпизоды".
**21.40** ("Культура") "Острова".

**НТВ**

**05.00, 09.00, 15.00, 18.00** "Сегодня".
**08.05 "Без следа". "Именинник".** Триллер.
**09.15** "Криминальная Россия".
**09.50 "Бумер".** Драма.
**15.15** "Принцип домино". Ток-шоу.
**16.25 "Каменская".** Сериал.
**17.35** "Чрезвычайные происшествия".
**18.40 "Граф Крестовский".** Худ.фильм.
**19.50 "Кодекс чести".** Сериал.
**21.00** "Страна и мир".
**21.40 "Секс в большом городе".** Сериал.
**22.20** "Новейшая история".

**СТВ+RenTV**

**06.30, 17.50** "Минщина. Люди, события, факты".
**06.45** "Утро столицы".
**07.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.50** "24 часа".
**07.50** "Столичный футбол".
**08.20** "Дом, который построю я".
**08.35** "Анфас".
**08.50** "Кадровый вопрос".
**09.05** "Таракан-робот". Мультфильм.
**09.30, 16.05** Мультфильм.
**09.50 "Кровожадные сороконожки".** Триллер.
**11.30** "Минское время. 1950 год".
**12.00** "Час суда".
**13.00** "Реактивный бокс".
**13.50, 18.30 "Солдаты".** Сериал.
**14.50 "Пауэр рейнджерс, или Могучие рейнджеры. Потерянная галактика".** Сериал.
**15.15** "Рыцари-забияки". Мультсериал.
**15.40** "Кот по имени Ик". Мультсериал.
**16.50** "Турпоход".
**17.00 "Дружная семейка".** Сериал.
**18.00** "Телеафиша".
**18.15** "Тема дня".
**20.05** "СТВ-спорт".
**20.20** "Закон и криминал".
**20.40** "Добрый вечер, малыш".
**20.55 "Спорт будущего".** Боевик.
**22.30** "Щит Отечества-2004".
**23.15** "Игровой рефлекс".
**23.30** "Горячий лед".
**23.50 "Секретные материалы".** Сериал.
**00.40** "Новости СНГ".

**8-Й КАНАЛ**

**07.00, 16.45 "Кпитан Немо".** Сериал.
**08.10, 17.50, 21.00** "Телемагазин".
**08.15** Программа мультфильмов.
**09.15** "Россия — взгляд на власть". Док.сериал.
**09.40, 19.50 "Горец".** Сериал.
**10.30 "Тумстоун".** Вестерн.
**16.30** "Мультпарад" от "Бюргера".
**18.00 "Охотники за алмазами".** Мелодрама.
**19.45** "Атомик Филмз" и "К-видео" представляют...
**20.40** "К-видео" — "Топ-8".
**20.45** "Вечарніца".
**21.10 "Экзистенция".** Триллер.

**ТВ ЦЕНТР**

**05.00, 06.30** "Настроение".
**07.35** "Газетный дождь".
**07.45 "Дело "Пестрых".** Детектив.
**09.40** "Войди в свой дом".
**09.45** "Телемагазин".
**10.00, 13.00, 17.00. 21.00** "События. Время московское".
**10.15** "Дата".
**11.10** "Момент истины".
**12.05, 23.00** "Петровка, 38".
**12.25** "Деловая Москва".
**13.15 "Криминальный кроссворд".** Сериал.
**14.15** "Как добиться успеха. Доктор Богданов".
**14.30** "Марш-бросок".
**15.00** "Регионы: прямая речь".
**15.30** "Командоры, вперед!".
**16.00 "Уголовная полиция".** Сериал.
**17.15** Алексей Баталов. "Заметки на полях".
**18.00 "Таковы эти женщины".** Сериал.
**18.50** "Пять минут деловой Москвы".
**19.00** "Лицом к городу".
**20.00 "Приключения Шерлока Холмса".** Сериал.
**21.40** "Отдел "Х".
**22.30** "Времечко".
**23.20** "25-й час. События. Время московское".
**23.45** "Супердиск".
**00.00 "Таиров".** Сериал.
**01.00** "Синий троллейбус".

**EUROSPORT**

**09.30, 13.30, 20.30, 00.00** Мультиспорт "Всякая всячина".
**10.00, 17.00** Снукер. Гран-при Великобритании.
**12.00** Плавание. Чемпионат мира в США.
**14.00** Теннис. Турнир WTA "Кубок Кремля" в Москве.
**19.00** Футбол. Кубок мира в Германии. Квалификационный круг.
**21.00, 22.00** Бокс. Международные соревнования.
**00.30, 02.15** Новости "Евроспорта".
**00.45** Автогонки НАСКАР.
**01.45** Ралли-рейд. Кубок мира в Египте.

